*«Я адсяджу, я выйду з паднятымі рукамі, з паднятай галавой і з чыстай душой», – гэта апошнія словы зняволенага мастака пасля вынесенага яму несправядлівага прысуду. Такіх прысудаў усё болей, і гэта жахліва. Менавіта таму мы не здаемся, бо кожны творчы акт пратэсту і салідарнасці – гэта голас, тысячы, сотні тысяч галасоў вольных людзей, і разам гэтыя галасы прарываюць блакаду страху і гвалту.*



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

## падтрымайце кампанію Save Our Songs

# 1. МАНІТОРЫНГ ПАРУШЭННЯ ПРАВОЎ У СФЕРЫ ТЭАТРА

САМАЦЭНЗУРА SELF-CENSORSHIP САМАЦЭНЗУРА

ПЛАН ЯК СПОСАБ ЦІСКУ PLAN AS A WAY OF PRESSURE

## БЕЗ ПРАВА НА КУЛЬТУРУ: ТЭАТР У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ. БЕЛАРУСЬ 2020

## WITH NO RIGHT TO THE CULTURE: THEATRE IN THE SPOTLIGHT. BELARUS 2020

РАЗГРОМ КУПАЛАЎСКАГА DEFEAT OF KUPALAUSKI

MASSIVE LAYOFFS МАСАВЫЯ ЗВАЛЬНЕННІ

**У дадатак да агульнай справаздачы паводле маніторынгу парушэнняў культурных правоў і правоў чалавека ў дачыненні да дзеячаў культуры за 2020 год Беларускі ПЭН-цэнтр падрыхтаваў экспертны аналіз парушэнняў правоў і рэпрэсій у сферы тэатру.**

# 2. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД

**Аксану Манкевіч, гіда, прызналі вінаватай ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і прысудзілі да 15 сутак адміністратыўнага арышту. Цэлую экскурсійную групу з 7 чалавек затрымалі ў сталіцы на праспекце Незалежнасці 31 студзеня, калі ў горадзе адбываліся кропкавыя затрыманні сілавікамі.**





**Ксеніі Міклашэўскай і Мікіту Броўку, супрацоўнікам крамы Symbal.by, прысудзілі 20 сутак арышту за «пікетаванне шляхам размяшчэння прадукцыі з сімволікай на прылаўку крамы». Анастасія Трафімчык і Вольга Ігнатовіч атрымалі па 15 сутак арышту.**

**На Крысціну Іванову, уладальніцу лідскай крамы сувеніраў з сімволікай і рэкламнага агенцтва «Хамелеон», <u>склалі пратакол</u> па артыкуле 23.34 за пікет – продаж нататнікаў з «Пагоняй» і бел-чырвона-белых сцяжкоў. Дагэтуль крама перажыла 8 праверак.**



Courtesy photo




**Ангеліна Бібік** і **Мацвей Копач** атрымалі год абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову за знявагу дзяржаўнага сцяга. 7 лістапада яны сарвалі сцяг з будынка на вуліцы Куйбышава ў Мінску, а потым спалілі яго.



**Іван Канявега**, дырэктар канцэртнага агенцтва Horse&Vega, 4 лютага атрымаў 3 гады калоніі за тое, што ў ноч з 9 на 10 жніўня спрабаваў спыніць машыну ДАІ, каб яна не заехала ў людзей.



**Руслан Акостка**, які 15 лістапада здолеў прайсці амаль праз увесь Салігорск з бел-чырвона-белым сцягам, атрымаў тры гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму і абавязаны выплаціць матэрыяльную кампенсацыю ў памеры 2 000 рублёў міліцыянту, нібыта пацярпеламу пры затрыманні Руслана.

**Аляксандр Нурдзінаў**, мастак, які 9-10 жніўня кідаў у бок амапаўцаў кветкі, атрымаў 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.



Фота: TUT.BY

# 3. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ



Дуэт **«Арыстакратычная бледнасць»** (**Вольга Барышнікава** і **Алеся Селядцова**), які спявае прыпеўкі па матывах апошніх навін, абвясціў аб прыпыненні сваёй дзейнасці праз пільную ўвагу да іх з боку органаў.



**Святлана Воцінава**, галоўная рэдактарка часопіса «Маладосць», звольненая са сваёй пасады рашэннем Міністэрства інфармацыі.



**Акцёраў Гродненскага драматычнага тэатра**, звольненых за палітычную пазіцыю ў верасні 2020, выклікалі ў міліцыю, верагодна, за навагодняе віншаванне, у якім яны зычылі 2021-му стаць «годам вольнай Беларусі, годам права і перамогі, годам беларускай мовы і бел-чырвона-белага сцяга». З тымі, хто 2 лютага прыйшлі ў міліцыю па позве, правялі прафілактычную гутарку.

Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі выклікае на гутарку ўсіх вытворцаў, з якімі кампанія symbal.by працавала апошнія два гады, на прадмет таго, ці выраблялі яны прадукцыю бел-чырвона-белых колераў і з гербам «Пагоня».







З крамай «Мой модны кут» у Маларыце разрываюць дамову арэнды памяшкання. 1 лютага ў краму прыходзілі з маларыцкай інспекцыі аховы працы.

У выдавецтве «Кнігазбор» канфіскавалі ўсе асобнікі рамана «Рэвалюцыя» Віктара Марціновіча.




Фота: mojmodnykut




У СІЗА КДБ забаранілі ўключаць «Аўтарадыё» падчас прагулак зняволеных – многім з іх падабалася, што па радыё ставілі рок-музыку.

Спектакль «Белый кролик, красный кролик», які збіраўся паказваць тэатр HomoCosmos, адменены, таму што гастрольнае пасведчанне на яго паказ было ануліравана.



# 4. РЭПРЭСІІ ЗА СІМВОЛІКУ




За бел-чырвона-белыя сцягі па-ранейшаму караюць:
за сцяг раёна Новая Баравая (10 содняў),



за сцягі, знойдзеныя ў лесе (штраф 10 базавых велічынь),







за выхад у горад з бел-чырвона-белым сцягам на плячах (10 сутак),



100 гісторыкаў падпісалі заяву ў абарону нацыянальнага сцяга, які ўлады хочуць прызнаць экстрэмісцкім.

# 5. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ



**У новым выпуску відэапраекта «Словы мацней» кінакрытык Тарас Тарналіцкі чытае ўрывак з «Зацемак аб характары беларусаў» публіцыста і мысляря Станіслава Грынкевіча.**



**«Для каго» – песня Кацярыны Ваданосавай і кліп Аляксандры Канафальскай – пранізлівае мастацтва, у якім мы пазнаем многа знаёмых твараў.**

**Беларусы замежжа правялі канферэнцыю і канцэрт салідаранасці «Жыве Беларусь!».**





Ліля Квацабая



elizabeth.batori_art

БЕЛЫЙ
КРАСНЫЙ
БЕЛЫЙ

Уладзімір Цэслер

# 6. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Алена Анісім, старшыня Таварыства беларускай мовы.**
***«Гэты сцяг [бел-чырвона-белы] сімвалізуе сумленнасць і дэмакратыю, гэта сімвал перспектывы развіцця Беларусі. Адпаведна робяцца ўсе захады, каб забараніць яго, ідзе пераслед усёй такой жа каляровай гамы. Гэта сведчыць пра тое, што на тым баку дзейнічаюць антыбеларускія і антынацыянальныя сілы».***



**Мікола Купава – аўтар эталона дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга, прынятага Вярхоўным Саветам у 1991 годзе.**
***«Упершыню бел-чырвона-белы сцяг з'явіўся на гравюры 1444 года! На той гравюры – бітва з туркамі пад Варнай, у якой таксама ўдзельнічалі войскі ВКЛ. Бел-чырвона-белыя сцягі масава паказаныя на славутай карціне "Бітва пад Оршай 1514 года". У 1917-м, яшчэ да абвяшчэння БНР, вайскоўцы-беларусы былой царскай арміі ўпрыгожвалі свае мундзіры бел-чырвона-белымі стужкамі і значкамі. Таму Клаўдзій Дуж-Душэўскі ў 1918-м, ствараючы сцяг для БНР, нічога не выдумляў, ён проста ўзяў правераны стагоддзямі сімвал».***



**Карына Хацкалёва, рэжысёрка і крэатыўны капірайтар, якая 31 студзеня прыйшла пад Акрэсціна сустрэць Дзяніса Іванова і была затрыманая, пра тое, што здарылася.**
***«Мне здаецца, у нас развіваецца культура прыніжэння. Проста той факт, што ты не ведаеш, дзе парушаеш закон, ужо прыніжае, прымушае баяцца. Затрымаюць цябе ці не – проста нейкі рандом. Фабрыка па фабрыкаванні спраў робіць сваю працу. Адзінае, што застаецца нам – гаварыць пра гэта, не замоўчваць. Ну і салідарнасць».***



**Руслан Вашкевіч, мастак, куратар мастацкіх праектаў:**
***«Ролю мастака ў гэтай рэвалюцыі, мне здаецца, узяў на сябе народ, людзі. На гэты раз людзям не былі патрэбныя нейкія маніфесты, намаляваныя плакаты, нейкія яркія карцінкі, зробленыя прафесійнымі мастакамі. А ўсё гэта цяпер умеюць выдатна рабіць самі людзі. Тым больш яны натхнёныя не нейкім там эстэтычным пачуццём, а самімі падзеямі, якія навокал адбываюцца».***

# 7. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




З 3 па 7 лютага ў Штутгарце праходзіў музычны фестываль эксперыментальнай музыкі ECLAT. Падчас фестываля Марыі Калеснікавай уручылі прэмію ў вобласці правоў чалавека імя Герхарта Баўма. Актывісты і актывісткі беларускай супольнасці Бадэн-Вюнтэнберга прадстаўляюць віртуальную выставу “Беларусь. Шлях да сябе (прадстаўленыя працы Валерыя Вядрэнкі, Жанны Капуснікавай, Сяргея Брушко і інш.)

Максім Знак намінаваны
на Міжнародную прэмію імя Трар’е –
гэта самая прэстыжная прэмія ў галіне правоў чалавека.





Чэшскі слэмер Роберт «Тукан» Нэтука запісаў «Слэм пра Беларусь»



Кліп на палескую баладу «Стояла дзевчына», зняты ў Ізраілі.

#standwithBelarus

#FreeWordsBelarus

#justice4Belarus

Еўрапейская пісьменніцкая і перакладчыцкая супольнасць заклікае міністраў культуры прыняць меры супраць палітыкі Лукашэнкі, дзе «пісьменнікаў і перакладчыкаў запалохваюць і саджаюць у турмы».




**У Швецыі ў межах праекта «Готландскія размовы» пры выдавецтве Ariel выйшла кніга-эсэ беларускага паэта Дзмітрыя Строцава «Искусство народного неповиновения» ў перакладзе на шведскую Мікаэля Нідаля.**
**Разам з ёй выйшла кніга рускай пісьменніцы Марыі Сцяпанавай «Письма в счастливое время» (пераклад Нільса Хоکансана), прысвечаная адкрытаму лісту Святланы Алексіевіч да расійскай інтэлігенцыі «Чаму вы маўчыце?» і адказам вядомых расейцаў на гэты зварот.**

**Літаратурная пляцоўка Nuyorican Poets Cafe (Нью-Ёрк) супольна з PEN America 6 лютага зладзілі перакладчыцкі слэм, прысвечаны падзеям 2020 года ў Беларусі.**






**Спевакі з 24 краінаў свету, ад Аргентыны да Японіі, запісалі разам гімн «Магутны божа».**

